*СЛОВА МАЕ ЧЫТАЧ*

# ДА СЁЛЕТНЯЕ СУСТРЭЧЫ

Праз традыцыйныя ўжо сустрэчы Вялікаліцьвіноў (Беларусаў) Задзіночаных Гаспадарстваў зь Вялікаліцьвінамі Канады піша Ст. Станкевіч у № 104-105 „Беларуса" (арт. „Да пытаньня наступнае Сустрэчы"). Там ён кажа: „Кажная Сустрэча мела нейкую сучасную або гістарычную, нацыянальную або палітычную тэму". Гэтак тэмаю Сустрэчы 1962 году была праблема „Беларусь — аброк (ахвяра) маскоўскага каленіялізму", а тэмаю Сустрэчы 1964 году — „Дваццаць год у Вольным Сьвеце" (дваццацігодзьдзе новай беларускай эміграцыі).

Менаваны аўтар уважае, што тэмаю Сустрэчы сёлета ў верасьні мае быць: „60-ыя ўгодкі „Нашай Нівы" й нашаніўства". Адлі дадаець ён: „Пытаньне савецкіх дачыненьняў да „Нашае Нівы" й нашаніўства магло-б быць зьвязана наагул із савецкімі забаронамі й хвальшаваньнямі праўды аб Беларусі".

Гэта зусім добра. Але гэтага мала. Над тэмаю на Сустрэчу, так як і над тэмаю да часапісу працуе адзін аўтар, іншыя толькі слухаюць або чытаюць. Аўтарам тэмаў можа быць гэтага й до, бо заўтра й далей яны будуць працаваць над іншымі тэмамі. Але калі ўсі іншыя абмежацца толькі чытаньнем або слуханьнем, дык наша ніва ня будзе ня толькі засеяна, але й ня будзе ўроблена. Значыцца, мае быць ня толькі тэма Сустрэчы, але й мэта, заданьне Сустрэчы.

На Сустрэчу едуць хто толькі зыча. Дык і заданьне, разгледжанае й прынятае на Зьезьдзе, мае абняць усіх чыста ўчасьнікаў Сустрэчы й тых, зь кім яны сустрэнуцца, зьвярнуўшыся дамоў. Заданьне мае быць прыступнае ўсім чыста, ды такое, каб яго стала кажнаму найменш да другое Сустрэчы.

Такім заданьнем, заданьнем наскрозь нашаніўскім ё нацыянальнае ўсьведамленьне нашых нясьведамых братоў і сёстраў, каторых у Амэрыцы шмат разоў болей, чымся сьведамых. Сьведамы Вялікаліцьвін — гэта — Вялікаліцьвін нацыянальна ідэйны. Адныя зь нясьведамых нашых братоў ня ведаюць, якога яны народу, другія, хоць і ведаюць, але гэтым і абмежуюцца. Надабе, каб першыя даведаліся, хто яны, і разам з другімі працяліся доляю свайго народу; найменш чаго яму зычылі-б — гэта жыць і адрадзіцца, зн. стаць усім сьведамымі. Усьведамляючы, кажны за год можа ўсьведаміць найменш аднаго. Такім парадкам, колькасьць нашых сьведамых братоў і сёстраў павялічыцца за год удвая.

Калі-ж усьведамленыя ня толькі будуць зычыць, але й хацець, нат жадаць адраджэньня народу свайго, дык яны будуць ужо й патрыётамі, і самы будуць усьведамляць іншых.

Другім заданьнем мае быць, каб кажны штогоду прыдбаў школе вялікалітоўскай прынамся аднаго новага вучаніка або вучаніцу. Калі няма дзе вялікалітоўскай школы, каб сам навучыў аднаго чытаць павялікалітоўску. Калі хто сам ня ўмее чытаць, каб навучыўся. Калі хто ўмее чытаць толькі лацініцаю, каб навучыўся й капіеўкаю (кірыліцаю), і наадварот.

Аўтары кніжак вялікалітоўскіх ня толькі мусяць самы іх і выдаць, а і самы прадаваць. Дык трэйцім заданьнем будзе продаж дарма кніжак і газэтаў а часапісаў вялікалітоўскіх. Праўда, гэтым не патрабуюць займацца ўсі чыста. Работа гэта малая й лягкая, раўнуючы да тае работы, якую ўкладае ў сваю працу аўтар і выдавец.

Тры менаваныя заданьні цесна зьвязаныя адно з адным і вядуць да тае самае мэты — усьведамленьня.

**Да праграмы Сустрэчы.** Дагэтуль на Сустрэчах былі аж два ігрышчы — першага й другога дня ўвечары. Ці ігрышча такая важная рэч, каб трэба было на яго аж так далёка ехаць? Ці мала іх у кажнага на месцу? Даволі аднаго ігрышча на другі дзень увечары. Затое першага дня мае быць разгляд менаванага заданьня, значыцца, галоўна ўсьведамляньня й вучэньня чытаць павялікалітоўску. На разглядзе маюць быць усі ўчасьнікі Сустрэчы. Меў-бы ён пачацца не пазьней 5-ае гадзіны папаўдні, калі таго дня ня будзе ігрышча; калі-ж-бы ігрышча першага дня ўсё-ж такі было, тады разгляд заданьня нацыянальнага ўсьведамляньня няхай-бы пачаўся а гадзіне 4-ой папаўдні.

На ім мае быць чытань з дыскусіямі на тэму ўсьведамляньня. У канцы разгляду мае быць абрана Цэнтральная Рада Усьведамляньня. А Рады мясцовыя ўсьведамляньня мае абіраць кажны асяродак у сябе на месцу. Цэнтральная й мясцовыя Рады ўсьведамляньня будуць патрэбныя дзеля некаторага кіраваньня працаю ўсьведамляньня. Усьвядамляючыя да іх будуць зварачвацца з пытаньнямі, будуць адзержваць ад іх рады, аргумэнты, довады, ведамкі празь літаратуру і самую літаратуру, пакольні гэта будзе магчыма. Адказы Радаў, агульнае значаньне маючыя, мелі-б друкавацца. Мясцовыя Рады Усьведамляньня згукалі-б зборкі ўсьведамляючых подле патрэбы.

Такая работа ўсіх дзеля свайго народу мела-б быць даўно ведзена. А як яе дагэтуль ня было, дык найляпей яе пачаць на ўгодкі нашаніўства, каторае было нічым іншым, як агульным, шырака замераным нацыянальным усьведамляньнем. Кажны бача, што гэтая работа нашаніўства і наступнага пакаленьня далёка ня скончана. Яе маем весьці мы. Зь ёю значаньне эміграцыі нашае будзе расьці. Безь яе будзем заміраць.

**Я. Станкевіч**

*СЯРОД СУРОДЗІЧАЎ У НЬЮ ДЖЭРЗІ*

## МАЁЎКА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

Аддзел БАЗА ў Нью Джэрзі ладзіў у нядзелю 10 ліпеня сваю сёлетнюю маёўку ў суседнім зь Нью Брансьвікам украінскім селішчы Баўнд Брук. У маёўцы прыняло ўдзел шмат сяброў БАЗА зь Нью Брансьвіку, а так-жа некалькі прыбылых зь Нью Ёрку сяброў Галоўнай і Акруговай Управаў БАЗА. Служыла якраз добрая пагода, а таму ў дружнай сяброўскай атмасфэры быў прыемна й карысна праведзены час. Зарганізаваная лятарэя й танцавальная вечарына ды свой собскі буфэт із зімнымі й гарачымі закускамі й напіткамі прынесьлі ў касу Аддзелу значны даход.

## ДАРАГІЯ ГОСЬЦІ

У нядзелю 5-га чырвеня Крывіцкае Навуковае Таварыства Праньціша Скарыны й пазваныя асобы віталі ў Нью Ёрку вельмі дарагіх гасьцей. Былі імі Юры Скарына, патомак нашага славутага Доктара Праньціша Скарыны, ягоная матка й жонка.

Ён паваенны эмігрант у Мэксыцы. Знайшоўшы наша Навуковае Таварыства, што назваўшыся на чэсьць прашчура ягонага Таварыствам Праньціша Скарыны, ён стаў сябрам ягоным і выказаў гатоў а ініцыятыву працы дзеля народу вялікалітоўскага (беларускага), народу Скарынаў.

Ён заклаўшы своё прадпрыемства ў Мэксыцы. Ад 5-га травеня Юры Скарына аблётаў розныя месты Задзіночаных Гаспадарстваў, шукаючы гургоўняў да збыту сваіх вырабаў і народных вырабаў мэксыканскіх. Зь Нью Ёрку паляцеў да Маямі ў Флёрыдзе, скуль да розных гаспадарстваў Сярэдняе Амэрыкі.

Але найважнейшая дзеяльнасьць ягоная палітычная. Ён змагаецца за вызваленьне народаў з маскоўска-камуністычнага іга. Будучы прадстаўніком арганізацыі паняволеных Масквою меж ваенных гаспадарстваў, ён абняў сваёй дзеяльнасьцяй таксама вызваленьне народу вялікалітоўскага і аднаўленьне гаспадарства ягонага.

Відавочна яму спала здольнасьць а энэргія славутага прашчура ягонага. Цікава, што й зь віду ён падобны да др. Праньціша Скарыны, якім ён ёсьць на патрэце ў Падуанскім унівэрсытэце. У сваёй прамове Юры Скарына сказаў, што ён споўне „абавязак крыві". **Я. С.**

# СЯРЭБРАНАЕ ВЯСЕЛЬЛЕ



У сыботу 30 красавіка споўнілася 25 год ад шлюбу інж. Часлава й сп-ні Марыі Ханяўкаў. З гэтае нагоды сваякі юбілянтаў зладзілі для іх і запрошаных гасьцей урачыстае прыняцьцё-банкет.

А назначанай гадзіне сабраныя госьці прывіталі бурнымі воплескамі „наважэнцаў", для якіх гэтая ўрачыстасьць была поўнай неспадзеўкай, бо яны былі запрошаныя на бяседу афіцыйна із зусім іншае нагоды.

За багата застаўленымі сталамі прайшло хутка ўзапраўды некалькі мілых і вясёлых гадзінаў. У прамовах некалькі разоў зазначалася, што ў васобах юбілянтаў сабраныя вітаюць ня толькі шчырых і адданых прыяцеляў, але й тых, што самаадданай грамадзкай працай, як мала хто іншы, спрычыняюцца да росту беларускай мясцовай грамады.

Інж. Часлаў Ханяўка вось ужо 16 год бязьзьменна перавыбіраецца ў управу БАЗА ў Нью Джэрзі. А гэта сьветчыць аб тым, што ён заслужыў на гэта сваёй дзейнасьцяй і цешыцца даверам у людзей. Апрача гэтага, ён на працягу доўгіх год, дзякуючы веданьню ангельскай мовы, дапамагаў парадамі ўсім тым, хто гэтага патрабаваў. Рабіў ён гэта бязінтэрэсоўна навет і для тых, зь якімі палітычна й ідэйна не пагаджаўся. Што-ж датычыць сп-ні Марыі Ханяўчыхі, то ня ведаю, ці адбылася хоць адна грамадзкая або харытатыўная імпрэза бязь ейнага актыўнага ўдзелу.

Дык пажадаем, каб у будучыні мы змаглі яшчэ раз сабрацца на Залатым, а далей і Брыльлянтавым вясельлі, а Паважаныя Спадарства Ханяўкі дачакаліся яго ў добрым здароўі.

Шчасьці Вам, Божа!

**Прысутны госьць**



**Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі пад камандай сп. Янкі Азаркі выходзіць на парад з нагоды Мэморыял-Дэй, ладжаны Саюзам Амэрыканскіх Вэтэранаў Замежных Войнаў у Нью Брансьвіку 30 травеня 1966 г.**

## НА ЎРАЧЫСТАСЬЦІ АМЭРЫКАНСКАГА СЬЦЯГУ

У сыботу 18 чырвеня ньюбрансьвіцкая Лёжа Аленяў ладзіла ўрачыстасьць, прысьвечаную амэрыканскаму сьцягу, на якую было запрошанае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Нью Джэрзі, а таксама прадстаўнікі парахвіі БАПЦаркве ў Гайлэнд Парку.

Аддзел БАЗА ў Нью Джэрзі рэпрэзэнтавалі старшыня Аддзелу сп. С. Гутырчык і сакратар сп. Ул. Бакуновіч. Прадстаўнікі-ж Царквы, што таксама абяцалі прыйсьці на ўрачыстасьць, не зьявіліся. Запраўды шкада, тым больш, што галоўнымі фігурамі на ўрачыстасьці былі мэр гораду Нью Брансьвік Чэстэр Паўлюс і кангрэсмэн Эдвард Дж. Патэн — вялікія прыяцелі Беларусаў.

Пасьля ўрачыстасьці прадстаўнікі БАЗА ў Нью Джэрзі мелі добрую нагоду асабіста пазнаёміцца з кангрэсмэнам Патэнам і прыпомніць яму лішні раз аб долі беларускага народу.

**М. Хацяновіч**

У БССР працуюць чатыры дзяржаўныя й восем абласных тэатраў. Апрача гэтага, працуюць прафэсіянальныя тэатры й у некаторых раённых цэнтрах, прыкладам, хоць малады яшчэ, але ведамы тэатр музычнай камэдыі ў Бабруйску. Далей працуюць гэтак званыя народныя тэатры, што разьвіліся зь лепшых самадзейных калектываў. Было ведама із савецкага друку, што бальшыня ўсіх тэатраў працавала на расейскай мове. На пісьменьніцкім-жа Зьезьдзе драматург Аркадзь Маўзон гэтую лічбу ўдакладніў, заявіўшы, даслоўна: „У рэспубліцы вельмі мала тэатраў. Акрамя таго, толькі тры зь іх працуюць на роднай мове"!?

Ці гэта будзе тэатр зь беларускай мовай, ці з расейскай, агульнай у іх зьявай тое, што ўсе яны неахвотна прыймаюць для пастаноўкі п'есы беларускіх аўтараў, даючы перавагу або п'есам замежным, ясна, ідэялягічна сваяцкім, або расейскім. Той-жа Маўзон прыгадаў на Зьезьдзе, як агульную зьяву, наступнае: „Маскоўскага аўтара бязь ніякага роздуму бярэ кажны тэатр, а нашага — зь вялікай неахвотай".

Гэта галоўна таму, што рэжысэрскі й акторскі пэрсанал тэатраў і кінастудыі „Беларусьфільм" у пераважнай ступені нацыянальна чужы, расейскі. Гэтыя людзі, асабліва рэжысэры ня толькі не зацікаўленыя ў пастаноўцы беларускіх твораў, але й ня могуць ужыцьцявіць такіх пастановак. Макаёнак у сваім судакладзе зьілюстраваў гэта вельмі вымоўным прыкладам. Уладзімер Караткевіч падаў быў кінастудыі „Беларусьфільм" сцэнарый „Гнеўнае сонца". Сцэнарый, паводля Макаёнка, „выдатны", быў прыняты, зацьверджаны Рэспубліканскім Камітэтам. „Мы ўпэўнены, што фільм атрымаўся-б цікавы, з глыбокай, аптымістычнай філязофіяй",—цьвердзіў Макаёнак. Тымчасам сцэнарый быў „адхілены" з прычыны адсутнасьці нацыянальных кадраў кінарэжысуры, якія-б ведалі беларускую літаратуру й нацыянальнае беларускае жыцьцё. А ў іншым месцы свайго судакладу Макаёнак падагульніў гэта ўжо ў дачыненьні да тэатральнага рэпэртуару, цьвердзячы, што „ў нас цяпер няма такіх нацыянальных рэжысэраў, і справы ў драматургіі пагоршыліся".

Усе гэтыя перашкоды ня цяжка было-б перамагчы, калі-б ня факт, што такі ненармальны й крыўдны для Беларусаў стан што найменш прыхільна талеруецца партыйнымі органамі. Вось довады гэтага. У газэце „Літаратура і Мастацтва" яшчэ за 8 студзеня 1965 году тагачасны намесьнік міністра культуры БССР Я. Парватаў сьцьвярджаў, як высока пазытыўную й пажаданую надалей зьяву, наступнае: „Ня будзе перабольшаньнем сказаць, што руская клясыка й сучасная руская драматургія складаюць асноўны рэпэртуар беларускага драматычнага тэатру й па сяньняшні дзень".

Далей. На пісьменьніцкім Зьезьдзе ўвесь час быў прысутны сакратар ЦК КПБ А. С. Пілатовіч. У сваім выступленьні ён павадаміў аб цэлым радзе мерапрыёмстваў, намечаных партыяй дзеля заспакаеньня найбольш палючых патрэбаў у галіне беларускай культуры, як палепшаньне дзейнасьці кнігагандлю, выданьне беларускай энцыкляпэдыі, выдаваньне бібліятэчкі беларускага фальклёру, пабудова памятнікаў Янку Купалу й Якубу Коласу, адсьвяткаваньне 450-годзьдзя беларускага кнігадрукаваньня й пабудова памятніка Францішку Скарыну, павялічэньне колькасьці гадзінаў для выкладаньня беларускай літаратуры ў школе.

Калі я чытаў у „Літаратуры й Мастацтве" пералік гэтых мерапрыёмстваў, дык быў прыгатаваны, што вось зараз знайду нешта й у карысьць беларускай драматургіі, прыкладам, што вось вядзецца падрыхтоўка дзеля пераводу прынамся некаторых тэатраў на беларускую мову. Нажаль, заміж чагосьці падобнага, я натрапіў на наступныя словы сакратара ЦК: „Нядрэнна, на наш пагляд, разьмеркаваліся сілы пісьменьнікаў рэспублікі па жанрах". Значыцца, і жанр драматургіі прадстаўлены задавальняюча!?

Нельга ў вадным газэтным артыкуле зрэфэраваць хоць-бы агульна выказваньняў паасобных пісьменьнікаў у дыскусіі. Усе яны былі вельмі цікавыя, шчырыя й карысныя, і, наўсуперак афіцыйнаму дакладу й судакладам, былі поўнай апрабатай сяньняшняга кірунку разьвіцьця беларускай літаратуры з тэндэнцыяй далейшага вызваленьня літаратурнага мастацтва ад службовае ролі. Адзін толькі Іван Мележ у сваім выступленьні сказаў пра характар і лініі разьвіцьця сучаснай беларускай літаратуры куды больш, чымся Броўка ў сваім даўгім дакладзе.

Усё-ж спынімся коратка на адной праблеме, што выплыла ў рыскусіі — на праблеме нацыянальнага характару літаратуры.

У сваёй уступнай прамове старэйшы пісьменьнік Кандрат Крапіва паставіў быў пытаньне: „Ці заўсёды, зьвяртаючыся да нашага мінулага, мы разглядаем яго з правільных мэтадалягічных пазыцыяў, ці заўсёды мы праводзім выразную мяжу, скажам, паміж нацыянальным і нацыяналістычным?" Крапіва, паставіўшы гэтае пытаньне, пакінуў яго, аднак, без адказу. Затое далі на гэтае пытаньне вычэрпваючы адказ іншыя ўдзельнікі Зьезду.

Тут вартая ўвагі заява Піліпа Пестрака: „Не адрывацца ад сваёй глебы, імя якой — народнае жыцьцё, гэта павінна быць асновай для кажнага мастака-пісьменьніка". Пра гэтую нацыянальную аснову гаварылі шмат якія ўдзельнікі дыскусіі, пер-наперш паэтка Эдзі Агняцьвет у сваім судакладзе пра дзіцячую літаратуру. Яна падчыркнула, што любоў да роднага краю павінна быць аўноўным матывам і фонам дзіцячай літаратуры. „Любоў да Радзімы, — гаварыла яна,— пачынаецца ад любові да той зямлі, дзе чалавек нарадзіўся й расьце, ад любові да прыроды, да побыту народу, да яго мовы".

Але найбольш прынцыпова й поўна адказаў на пастаўленае Крапівом пытаньне паэта Ніл Гілевіч. Сваю галоўную тэзу сфармуляваў ён гэтак: „Сапраўды інтэрнацыяналісты той, у душы каго любоўна суседнічаюць павага й пашана да культуры свайго народу з павагай і пашанай да культуры іншых народаў. Атрафіраваньне пачуцьця нацыянальнай гордасьці хутчэй чым да чаго іншага, прыводзіць да касмапалітызму". Падчыркваючы пазытыўныя каштоўнасьці нацыянальнай мінуўшчыны народу, Гілевіч паставіў яшчэ й другую тэзу: „Гэроі рэвалюцыі, грамадзянскай і айчыннай войнаў вырасьлі не на голым месцы, яны выхоўваліся на гэраічных старонках гісторыі народу".

Дык дзе-ж тут асновы для боязі Крапівы перад беларускім нацыяналізмам ці, як ён выразіўся, „нацыяналістычнымі" у гісторыі беларускага народу? Дый наагул больш чым дзіўна, калі якраз беларускі пісьменьнік нязвычайна рупліва гэтую боязь падчырквае, тады калі як у мінуўшчыне Беларусі, гэтак і сяньня была й ёсьць адно абарона перад наступам чужога, галоўна расейскага, запраўды азьвярэлага нацыяналізму.

Тое, што пісьменьніцкі Зьезд шырака насьветліў гэтае пытаньне й разьвеяў боязь такіх, як Крапіва, руплівцаў перад уяўным беларускім нацыяналізмам, — адно з прынцыповых і найважнейшых дасягненьняў Зьезду.

Усе-ж іншыя дасягненьні — гэта, незалежна ад афіцыйнага дакладу й у вялікай меры судакладаў ды наўсуперак ім, агульнае пацьверджаньне правільнасьці сяньняшняй ідэйнай і мастацкай ськіраванасьці беларускай літаратуры й такое-ж агульнае пажаданьне, каб літаратурнае мастацтва было перш-наперш мастацтвам, а не прапагандовым рупарам партыйнае палітыкі.

**Ст. Станкевіч**

# ПАД УРАЖАНЬНЕМ ЗЬЕЗДУ

Прыходжу да перакананьня, што добра й правільна было ўвайсьці другі год запар у Галоўную Управу ЗБК. Чаму? Таму, чаму часам хацелася-б пражыць жыцьцё нанава ад самага пачатку, маючы сяньняшні жыцьцёвы досьлед.

Веду можна здабыць у школе, ды з кніг, але мудрасьць зь векам і практыкай — праўда, не заўсёды і ня ўсім.

Аднойчы ў сяброўскай гутарцы, калі мова была аб людзкіх паводзінах, пытаюся 75-ці гадовага містэра Брокінга, які, хоць Ангелец, але стаўся сябрам беларускай калёніі ў Таронта: — Як павашаму чалавек дасьпявае? — маю на думцы духовую сьпеласьць. — Ён адказаў: „Чалавек можа пражыць і СТО ГОД — і НІКОЛІ НЕ ДАСЬПЕЦЬ. Ён мусіць мець перадусім інтэлігенцыю і мусіць навучыцца прыймаць заўвагі й крытыку бяз злосьці, а з развагай і спакоем. Тады толькі зь бегам гадоў ён абгладзіць сваю кантаватасьць і шурпатасьць і станецца духова дарослым, прынцыповым, абавязкавым — дасьпелым".

Хтось казаў: — Хочаш сябе ўдасканаліць, прыслухоўвайся да сваіх ворагаў, бо ад іх даведаешся аб сваіх недахопах. Твае прыяцелі будуць гаварыць табе толькі аб тваіх добрых баках. — А кажны з нас мае адно і другое.

Вяртаюся, аднак, да пытаньня, чаму добра ўвайсьці другі год запар у Ўправу: Першае: Асабліва пасьля Агульнага Зьезду, адслухаўшы ўсе справаздачы, дыскусіі й крыткі — узьнікае ўражаньне, што, як у тым „пазл" (цацка-загадка), з маленькіх кусочкаў удалося зладжыць цэлы абраз. Цяпер бачыш усю структуру арганізацыі, бачыш яе слабыя й мацнейшыя месцы.

Другое: Калі ўжо пачалі гаварыць пра арганізацыю як архітэктурную структуру, дык будзем (хай сябры выбачаюць) называць людзей будаўляным матар'ялам. Дык вось за год была змога пазнаць гэты будаўляны матар'ял, пазнаць, хто на што можа быць прыдатны й вартасны. Тое, што зналася людзей праз колькінаццаць год сьпярша— амаль ня лічыцца, бо глядзелася на іх неяк іншымі вачыма.

Трэйцяе — мо' найважнейшае, што чалавек сам сябе больш пазнаў, трохі абгладзіўся грамадзка, трошкі датарнаваўся да „тэрэну". Зубамі свайго кола зазубіўся й дапасаваўся болей да цэлага камплексу зубатых колаў і колцаў арганізацыі. Дацаніў болей цяжкасьці й перашкоды.

Чацьвертае: Усьведаміў сабе неабходнасьць імкненьня нас, як грамады, ды кажнага паасобку, да дасьпяваньня грамадзкага, бо калі мы цяпер не патрапім наладзіць толкам параўнальна невялікую й нескамплікаваную арганізацыю, як ЗБК — дык што-ж будзе з дзяржаўнасьцяй, якое мы сабе так жадаем?

Пятае: Пры пачатку новай кадэнцыі напрашваюцца наступныя пытаньні: Пашто мяне выбралі? Што я сама сабе ў душы думаю, ці зьбіраюся рабіць так, як будзе вымагаць дабро арганізацыі, дабро цэласьці нацыянальнай справы, ці буду паступаць так, як падыктуе мне маё самалюбства й амбіцыя? Ці мо' хопіць зь мяне калі-небудзь прыйсьці на паседжаньне, у царкву, на вечарыну, на нацыянальнае сьвяткаваньне, а то, набраўшыся гэройства, і на даклад? Адказваць на гэтыя пытаньні тут ня будзем, мо' толькі скажам:

„...у сэрца глянь сваё ты і ў душу заглянь з ахвотай..."

**Раіса**

# ПАРАХВІЯЛЬНАЯ МАЁЎКА

28-га чырвеня, на фарме В. Высоцкага ў Пікэрынг ля Таронта была зладжаная маёўка Парахвіяльнай Радай прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Людзей было... „з двадццаць аўтаў" — кажа Мікола Ганько. Калісь лічылі іх на фурманкі. Пагода, як на заказ! З раніцы, так як гэта была нядзеля, а. Міхаіл адслужыў у садзе палявую абедніцу, а тады, хто хацеў, карыстаў з прыроды, чыстага паветра, ды вольнага ад працы дня. Людзі, сеўшы грамадкамі, гутарылі, елі, запівалі, сьпявалі. Што? Пачалі ад „Люблю мой край", а кончылі? — Ніхто добра ня памятае.

Дзеля папаўненьня парахвіяльнай касы быў зарганізаваны базар і буфэт. Абедзьве імпрэзы далі каля $ 100.00 прыходу.

Былі тут і дзеці, яны забаўляліся пасвойму. Але знайшоўся й вынятак, быў ім Эдзік Барановіч. Псыхалёгі кажуць, што для фізычнага й псыхічнага здароўя кажны чалавек павінен мець прынамся адно „гобі" — разрыўковае зацікаўленьне. Патрэбнае яно дзеля разладаваньня забойчага напружаньня — „тэншын". Добра таму, хто такое зацікаўленьне, асабліва ў прыродзе, разаўе ў сабе яшчэ змалку. Як у таго Коласавага Кастуся: „Ніхто з дамашніх не згадае, чым рэчка Костуся займае...", так не адзін з маёўшчыкаў дзівіўся, чаму 12-цігадовы Эдзік Барановіч, замест гуляць зь дзецьмі, каменьні зьбіраў, біў іх малатком, дзе якія ў руксак складаў, ды дамоў павёз. Што для каго, а для Эдзіка цікава, як розныя каменчыкі выглядаюць зьверху, а як, калі іх разаб'еш на палавіну. Эдзік сабраў дома ўжо значную калекцыю каменьняў.

Маёўка скончылася недзе каля захаду сонца.

# ПРЫВІТАНЬНЕ НОВЫХ СЯБРОЎ

28-га травеня, у сыботу беларуская калёнія Таронта й ваколіц вітала сяброўскай бяседай і падаркамі новапрыехаўшых з Польшчы сп-ва Ніну й Вінцэнта Рудніцкіх, якія зьяўляюцца сваякамі спадарства Куляшоў і Ганькоў. Арганізатарамі бяседы былі сп-ва Надзея й Гэнрык Барановічы. Др. Б. Рагуля мяккім голасам і цёплымі словамі вітаў новых сяброў ды заклікаў іх улучыцца ў нашую сям'ю, нашыя шэрагі, нашую працу для нашых супольных ідэялаў. Закончыў ён прамову тостам за здароўе й памысьнасьць Ніны й Вінцука Рудніцкіх.

„І пайшла чарка з рук у рукі, пілі ўсе дружна, бяз прынукі..." Прыемна было чуць словы падзякі сп. Рудніцкага ў чысьцюсенькай беларускай мове, якую захаваў ён, ня гледзячы на шматгадовае жыцьцё ў Польшчы.

Ці то ўдача Агульнага Гадавога Зьезду ЗБК, што толькі закончыўся перад бяседай, ці то словы прамоўцаў, ці то чарка й сяброўская атмасфэра, ці проста пах бэзу — ці ўсё разам падзеяла так, што на залі выбухнула юнацкая песьня. Ведаю! Беспасярэднім стымулам была нейчая заўвага, што Др. Рагуля гаварыў так сьвежа, як некалі ў Марбузе. Хтосьці ўспомніў часы перад эміграцыяй у Канаду... Сваім лірычным і моцным тэнарам сп. Рачыцкі пачаў: „Бывай, мой родны кут і зьвяз..." — „...Бывайце вы, лугі, і гоні...." — падхапілі былыя юнакі. „Люблю мой край..." — быў гусьцейшым і мацнейшым, бо ахапіў усю залю.

„Ручнікі, ручнікі!" — пачуліся заклікі й воплескі з усіх бакоў. На часіну здэзарыентаваная, я ня ведала, пра што ходзіць. Але вось усе супакоіліся й палілося звонкае сапрана й барытон Ніны й Вінцука Рудніцкіх. Дык вось вам яны, „Ручнікі"! Гэта рэдкая, мусіць, яшчэ нідзе не запісаная, самабытная й глыбокая беларускай душой народная песьня! — Дуэту адказала солё „Дзісьненскага танга" — Рачыцкага.

Стройна ў такт ішлі „Жаўнеры Беларусы"... дзяўчатам сэрцы біліся мацней; „плакалі ў небе зорачкі, перадаючы прывет бацьком." Ляцелі мы птушкай у родны край, каб заараць, засеяць і зжаць „гэты чорны беларускі наш загон..." „Бабе Еўцы" й раскольніку дзеду з „Верасьня месяца" прыйшлося разганяць настальгію. Здалёк „Ад родных ніў" — забыўшыся рука ткала „...заміж пэрсыцкага узору цьвяток радзімы васілька"... Во колькі мы насьпявалі ўсяго. — Ды зноў грымела „Бойкая моладзь", што не баіцца злыдняў, ані іх пагрозаў.

Хтосьці наракаў, што ў царкве, дык няма каму сьпяваць, хтосьці апраўдваўся, што ніколі ня меў нагоды навучыцца царкоўных сьпеваў, а ў беларускім скаўтынгу ўсім даводзілася шмат сьпяваць і машыраваць...

Тым часам стрэлка на круглым твары гадзіньніка, што вісеў на сьцяне, бязупынна падымалася ўверх і ўсё бліжэй падыходзіла да паўночы. Не дачакаўшыся першых пеўняў — ды хто іх у Таронта дачакаецца! — няпрыкметна мы пакінулі ўсё яшчэ расьсьпяванае таварыства.

Яшчэ на другі дзень, а была гэта Тройца, пасьля багаслужбы ў Беларускім Цэнтры ў Царкве людзі ўспаміналі вясёлую бяседу.

**Раіса**

# АМЭРЫКАНСКА-САВЕЦКІЯ СПАРТОВЫЯ СУСТРЭЧЫ

24 і 25 ліпеня сёлета ў Лёс-Анджэлесе мелася адбыцца традыцыйная амэрыканска-савецкая лёгкаатлетычная сустрэча. Савецкая спартовая дэлегацыя — 123 чалавекі — была ўжо бадай гатовая да ад'езду: былі атрыманыя амэрыканскія візы, замоўленыя навет білеты на самалёт. Тымчасам, сустрэча ў Лёс-Анджэлес не адбылася. Не адбыліся таксама й савецка-амэрыканскія баскетбольныя спаборніцтвы ў Маскве, што былі заплянаваныя на той самы час, што й сустрэча ў Лёс-Анджэлесе. Савецкія атлеты зыйшліся раптам на свой сход ды прагаласавалі ня ехаць у Амэрыку й ня сустракацца з Амэрыканцамі ў знак пратэсту супраць таго, што Задзіночаныя Штаты вядуць вайну ў Ветнаме. Выняткам у гэтым байкоце была адно група амэрыканскіх плыўцоў, што ў сярэдзіне ліпеня брала ўдзел у міжнароднай сустрэчы ў Маскве. Выняткам, як выглядае, застанецца таксама турызм. Савецкі Саюз, на думку назіральнікаў, пераразаць шляхоў амэрыканскім турыстым ня будзе дзеля свае зацікаўленасьці ў замежнай валюце.

Пастанова савецкіх лёгкаатлетаў ня ехаць у Лёс-Анджэлес была для Амэрыканцаў неспадзеўкай і выклікала зьдзіўленьне. Пастанова гэтая абмяркоўвалася ў друку Задзіночаных Штатаў, бо яна закранула шырокае пытаньне ўсяго амэрыканска-савецкага культурнага абмену, што апынуўся пад пагрозай зрыву.

Абмен гэты адбываўся на працягу апошніх васьмёх гадоў, і хоць не абыходзілася безь некаторых цяжкасьцяў, ён усё-ж замацоўваўся й разьвіваўся. У Савецкім Саюзе ў часе абвешчаньня байкоту гасьцявала амэрыканская джазавая аркестра, а ў Амэрыцы закончваў сваё доўгае турнэ балет маскоўскага Вялікага Тэатру.

Умова амэрыканска-савецкага культурнага абмену падпісвалася што два гады й грунтавалася на прынцыпе, што абмен гэты праводзіцца здалёк ад палітыкі. Таму якраз гэткае зьдзіўленьне ў Задзіночаных Штатах выклікала раптоўная пастанова савецкіх атлетаў байкатаваць заплянаваныя з Амэрыканцамі спартовыя сустрэчы.

Прадстаўнік Дзяржаўнага Дэпартамэнту ЗША назваў гэтую пастанову „нефартунным" парушэньнем духу пагадненьня. А газэта „Вашынгтон Пост", прыкладам, паставіла пытаньне, ці варта наагул весьці далей культурны абмен з Савецкім Саюзам, дзе, як пісала газэта, „ня могуць адрозьніць спорту ад палітыкі".

Як паведаміў маскоўскі карэспандэнт газэты „Нью-Ёрк Таймс", амэрыканскі пасол у Маскве Фой Колер у сустрэчы з савецкім міністрам замежных справаў А. Грамыкам выказаў перасьцярогу, што Савецкі Саюз ставіць пад пагрозу зрыву ўвесь культурны абмен з Амэрыкай. Колер адкінуў Грамыкава тлумачэньне, што атлеты, быццам-бы, спантанічна й аднагалосна пастанавілі байкатаваць сустрэчу з амэрыканскімі спартсмэнамі. Пасол ЗША зьвярнуў Грамыкаву ўвагу на тое, прыкладам, што замоўленьне білетаў на самалёт у Лёс-Анджэлес было адкліканае задоўга перад сходам савецкіх атлетаў. Грамыка нічога на гэта не адказаў. Колер прыгадаў таксама савецкаму міністру замежных справаў, што пастанова савецкіх атлетаў парушае пагадненьне пра культурны абмен, які прадбачвалася праводзіць вонках палітыкі. На гэта Грамыка адказаў, што ўжыцьцёўленьне пагадненьня пра культурны абмен павінна праводзіцца ў сьвятле ветнамскіх падзеяў.

На думку назіральнікаў, савецкі байкот спартовых сустрэчаў з Амэрыканцамі тлумачыцца станам савецка-кітайскага канфлікту. Апошнім часам, як ведама, камуністычны Кітай войстра зьвінавачвае Савецкі Саюз за „калябарацыю", быццам-бы, і змову з Амэрыкай супраць Ветнаму. Ахвярай гэтых кітайскіх выпадаў, відаць, і сталіся амэрыканска-савецкія спартовыя сустрэчы: каб не даваць кітайскім камуністым поваду завайстраць зьвінавачваньні, уважаюць назіральнікі, Савецкі Саюз пастанавіў пайсьці на байкот спартовых сустрэчаў з Амэрыканцамі.

**Я. Запруднік**

● **Парад у Ашаве.** Жыхарства Ашавы пачало зборкавую акцыю на фонд пабудовы вялікага рэкрэацыйнага цэнтру пры Сівік Аўдытарыюм, як праект на стагодзьдзе Канады, 14-га травеня масавым парадам, у якім прыняло ўдзел 70 арганізацыяў, клюбаў і таварыстваў, у тым ліку й Беларуская Самапомач у Ашаве. Вечарам, пры паказе параду на тэлевізыі была паказаная й беларуская група.

# У „ДЗЕНЬ БАЦЬКІ"=МАЙМУ ТАТУ...

Майму Тату „...мудрасьці кніжнай ня даў Бог пазнаці..." Ад свайго Бацькі атрымаў Ён нізкую хату з малымі вакенцамі, чатыры гэктары зямлі й ганчарскае кола. Натура абдарыла яго высокай стройнай паставай, уроджанай інтэлігенцыяй, руплівым ды ідэйным сэрцам і пачуцьцём гумару. Шчодрых дароў натуры ён не закапаў у зямлю, а памнажаў, каб скарыстаць іх для годнага выкананьня свайго жыцьцёвага абавязку — місіі Бацькі-Грамадзяніна.

У цяжкія паваенныя й пасьлябежанскія часы нялёгка было пракарміць пяць душ сям'і. З уласьцівай яму заўсёды бліскавічнай шпаркасьцю ён круціў ганчарскае кола й прадукаваў гліняныя гаршкі, міскі, макотры й гладышкі. Выпальваў іх у ганчарскай печы, што знаходзілася ў „дымнай кухні", ладаваў на воз сінявата-цёмна-шэрыя гаршчэчкі й з суседзямі выбіраўся ў далёкае дзённае падарожжа па вёсках Палесься. Там чакалі ганчароў жанкі, каб купіць ад іх так патрэбнае судзьдзё. Шпаркая прадукцыя часам выпускала й крываваты гаршчок і, здавалася, не магла-б вытрымаць канкурэнцыі з павольнай прадукцыяй паляшукоў. Тут, аднак, прыходзіла ў выручку вясёласьць і жартаўлівасьць собсьніка крываватай гладышкі. Цёткі ўміг, як расказвалі ганчары, раскуплялі ў Колі гаршкі, а калі некаторы й ня меў рэгулярнае формы, як прадметы ў Цэзанавым мастацтве, дык што з таго, ён прыносіў шчасьце для цёткі, а ў кажным выпадку, крыху жартаў ды весяласьці. У замен за свой тавар Тата прывозіў дамоў жыта, бульбу, фасолю, сачэўку, гарох — усё, што патрэбна было для пракармленьня сям'і. Пасьля перайшоў ён цалком на земляробства.

Бывала прыйдзе бездапаможная суседка зь бядой па раду й дапамогу. Тата выслухае яе, а пасьля бясturбэтна ўскрыкне: „Цётка, такую бяду, пальцам разьвяду!" І ўраз вочы старэнькае пасьміхаліся, мо' з жарту, а мо' з надзеі, бо Коля, хоць ня пальцам, але рукамі ці галавою заўсёды памагаў „бяду разьвясьці".

Быў Ён змагаром за правы малаграматных мяшчан земляробаў-ганчароў. У мястэчку на вуліцах, дзе жылі купцы Жыды, ды польскія ўраднікі, быў брук, ходнікі, электрычнасьць. Затое цемната, хоць вока выкаль, панавала доўгімі васеньнімі й зімовымі вечарамі там, дзе жылі беларускія мяшчане. Хоць у школу Тата хадзіў толькі „адну зіму", але не пасьпелі Яго тыя-ж мяшчане выбраць, як свайго прадстаўніка, у Раду Мейскую, а неўзабаве вуліцы Х... і Г... заілюміновалі электрычныя лямпы, а нам дзецям ня трэба было болей сьлепацець пры газаўнічцы над кніжкамі. Бывала, прыйшоўшы з паседжаньня Рады, Тата доўга расказваў Маме аб несправядлівасьці падзелу гарадзкога бюджэту, што на „кагал" ідзе аж столькі, а на мяшчан толькі толечкі. А чаму? Бо іх у Радзе ёсьць аж толькі чалавек, а нас толькі пару. Нам зь імі цяжка змагацца, бо як хто зь іх устане гаварыць, дык „у яго язык ходзіць як прывязаны", а ў мяне — не. Каб я меў толькі йхнюю асьвету!

Што значэньне асьветы Тата дасканала разумеў, мы ведаем з таго, зь якою руплівасьцяй Ён стараўся забясьпечыць яе сваім дзяцём.

Над усё Ён лібіў зямлю. Ужо ў сакавіку Ён выходзіў на поле, каб з пад сьнегу пабачыць азімае збожжа, уцягнуць жыцьцядайны Яму пах сырой глебы, а першы сьпеў жаваранка напаўняў Яго грудзі радасным клічам да працы на чорных загонах. Найпрыямнейшым сном для яго было сьніць палетак каласістага ўрадлівага жыта.

Любоў да зямлі была прыдатнай і ўраджайнай глебай для прарастаньня засяванага тады нашымі змагарамі зерня нацыянальнай сьведамасьці. Ужо з маленства памятаю ў нашай хаце беларускія календары, зь якіх Тата чытаў нам сьмешныя расказы, як „Каты" і „Выстагнаўся" — надта-ж яны нам дзецям падабаліся — ды вершы, як „О край родны", ды „Ворагам беларушчыны". Да сяньня гэтыя два вершы прыпамінаюць мне дзяцінства. „Ворагам беларушчыны" навучылася я напамяць, яшчэ ня ўмеючы добра чытаць. Пасьля вечарамі з падвалаў „Крыніцы" чыталі „Сымона Музыку", і я ўзноў надта плакала, як выгналі Сымонку з хаты. Зьбіраў Тата дэкляацыі на беларускую школу. Назьбіралі дастатковую колькасьць подпісаў, але адно прозьвішча было кімсь схвальшаванае. Да гэтага польская ўлада прычапілася й беларускае школы нам не далі.

Апрача зямлі, прадметам любоўі ў майго Таты была ягоная сям'я. Нізкую дзедаву хату Ён падняў „бэнкратамі" ў вышыню штонайменш на адзін мэтар, каб дзяцём было болей паветра. Малыя вакенцы замяніў вялікімі, каб дзяцём было болей сонца. У маразы й сьнегавіцы вазіў нас санкамі ў школу, каб дзеці не памерзьлі. Узімку дзьверы не зачыняліся ад лекараў ды фэльчараў, бо дзеці чыхалі й кашлялі. Падвесну хлеба не хапала, бо жыта прадавалася на гімназіі, ды пасьля ўнівэрсытэты для дзяцей.

Але хоць любіў, ды ня балаваў Ён сваіх дзяцей. Навучыў іх працаваць ды шанаваць працу. Улетку, закінуўшы касу на плечы, з Жонкай і чародкай дзяцей выходзіў на палетак і выганяў па дзесяць коп жыта ў дзень. Добрая жняя нажынала паўтары капы. Мяшчане гаршыліся, што Коля жыта марнуе, бо кошаныя снапы не такія роўненькія, як жатыя. — „Нічога, малатарня іх выпрастае!" — жартаўліва, але з ноткай гордасьці адказваў Тата. Просьценькія снапкі жнеяў малацілі мяшчане цапамі.

Меншыя дзеці — меншая бяда, большыя дзеці — большая бяда. Падрастаючым дзяцём трэба даць асьвету. Хлеба пад весну не хапае... Аднак із свае пазыцыі Тата ня думае зыйходзіць. Трэба шукаць дадатковага заробку. На ўзгорку на сваім загоне Ён знаходзіць жвір і бярэ падрад дастаўляць яго для гораду для брукаваньня вуліц. Зноў горшацца мяшчане, што Коля полечка марнуе, але Тата затое мае чым заплаціць за гімназію для дзяцей, а на „змарнаваным" полечку за пару год ізноў каласіцца авёс.

І так усё жыцьцё Тата біўся, каб даць сваім дзяцём нармальныя для фізычнага й духовага здароўя абставіны жыцьця, даць ім асьвету, бо зь ёю лягчэй змагацца за свае правы, даць ім маральныя ўстоі, даць ім правільны кірунак жыцьця.

Ці ня ёсьць гэта заданьнем Бацькі наагул?

З любоўю й пашанай да Цябе, Тата!

**Дачка**

Кажны з нас мог-бы напісаць апавяданьне пра свайго тату. Апавяданьнеў гэтых сабралася-б шмат і яны напэўна былі-б цікавыя й разнародныя па зьместу. Але ў васнаўным яны мелі-б і шмат падабенства. У іх напэўна выступалі-б любоў да сваіх дзяцей і клапатлівасьць за іх узгадаваньне, за іх будучыню. Хай сабе й простае ўзгадаваньне — так як Бог прыказаў і жыцьцёвыя абставіны дазволілі. Але ў гэта простае ўзгадаваньне ўкладалася душа — разам з найважнейшымі якасьцямі чалавечай годнасьці: праўда, чэснасьць, справядлівасьць, рэлігійнасьць, працавітасьць, любоў да ўсяго свайго роднага, да бацькаўшчыны, пашана да бацькоў, да старэйшых, да людзей.

Калі мы маем гэтыя якасьці й ганарымся імі — дык у першую чаргу мусім быць удзячнымі за іх сваім Бацьком.

**Ж.**

